# ТВОРЧЫ'Я БУДНІ

ШТОМЕСЯЧНАЯ

ЛІТАРАТУРНАЯ, ГРАМАД-БЫТАВАЯ І НАВУКОВАЯ ЧАСОПІСЬ.






ВЫДАНЬНЕ ПРАФКОМУ ПРАНАСЬВЕТЫ
"ПЭДФАК Б.Д.У."

# З Ь М Е С Т

П. ВЕЧАР.

# АДУКАВАНЫ ЖОНГЛЕР

(Канчатак).

- А я, браток, знаеш - перабівае Рыгор Вузел - учора з аднэй "этого-того... выпил на брудэршафт...и ....чудесно....." Пры прашчаньні-ж схіліў гэта я трошкі на бок галаву, прыжмурыў сярдзітыя вочы і скончыў размову з "прекрасною" мілымі вершамі незабвеннага Сяргея Есеніна:

"Излюбили тебя, всю измызгали
- Невтерпеж,
Так что же ты смотришь синими брызгами?
Аль в морду хош?"

- Ну, а далей што было? - пытае Засуліч.

- Гм... Вядома, што - адказвае Вузел.- Якое пытаньне, такі і адказ. Чагось -жа яна яшчэ ад мяне патрабавала, а я трэснуў гэта з правай і з левай, каб не пакрывіць сківаіц, і паплеўся ўкосікі. Што было далей не памятаю апроч аднаго.Прадзіраю гэта я вочы пасьля смачнага сну, - бачу - навакол мяне незнаёмыя сьцены і шмат незнаёмцаў з азызглымі тварамі.Страшэнная вонь. Думаю сабе: што за праява? Які кадук мяне сюды загнаў? І тольні тады схамянуўся, калі прышлося аддаць сіненькі трактар (5 р.) Шапцы з чырвоным аколушкам.

- Няўжо праўда? - Зьдзівіўся Засуліч.

- Ну дурны-ж ты, каб цябе халера. Няхай бы яны трэснулі, гэтыя мільтоны, а я нізашто-б не даў 5 руб. Што яны са мною зрабілі-б? за жывот угрызнулі-б? Дудкі, брат.быў бы знак, а за пабоі ў СССР знаеш што? Іспраў-дом.

-Ну, а хіба-ж я лепшы быў. Перш кусціў, потым па мардахам біў,- зазначыў Вузел.

- Так-то-так - кажа Засуліч. Ды навошта табе было задзірацца з гэтымі б....... Ты рабіў-бы памойму. Спадабаецца Тамара - зьвярнуў на сябе яе ўвагу, адракамандуюся саўслужам-куцілаю (а ў мяне пальцішка, знаеш, нішто сабе). Ну вось і гуляем

сабе. Я, бачыце, стараюся гуляць чым далей ад электрычных лямпаў. Забіраюся ў самую глуш Трэку. Здалёку даносяцца прыгожыя людзкія песьні, а зблізу над самай галавою шэпчацца лісьце старога клёну, праз якіх тры дрэвы на тонкай верхняй галінцы гойдаецца напэўна салавей і пяе незапомныя песьні. Апроч таго, салавей - першая і апошняя тэма гутаркі. Тут ужо ёсьць поўная магчымасьць спытаць дзе і як жыве яна, што робіць, а рукі, як не гаваркі элемэнт маюць працыю весьці зносіны так сама з негаваркімі рэчамі: гузікамі, брошкамі, дэкальтэ, а потым...., а потым вы самі ведаеце...Калі за маё ня сыдае, дык я нагнуўшыся да яе тонкага вуха і прабзыкаю, як той малярыйны камар: - Тамара. ідзі ты к.... мац... сёньня ў мяне фінансы паюць рамансы. Ціха і гладка. А

Але дарма. Толькі праз памылкі можна выйсьці на лепшы скарочаны шлях.

IУ.

Тэма : "Свои приключения по женской линии" пашыралася ўсё больш і больш. Кроў у жылах жанглёраў бунтавалася сьмялей і злосьней з апавяданьнем кожнага новага здарэньня, змагалася і лезла ў шчокі каб сьцерці той "лебяжий пух", які без запытаньня закрываў яе прыгожасьць, ае дзеяньне.

Адукованыя так затакаваліся, што нават сталі забываць зачым сюды прышлі.Урэшце, Засуліч перабіў усе салодкія размовы і выказаў думку прыступіць да горкі.

- Так вось, браткі. Усё гэта рыскі мінулага. Дык давайце-ж прыступім да "сучаснасьці." Пачнем з таго зачым прышлі - з гэтымі славамі Засуліч адвярнуўся на хвілінку у суседні пакой.

Скора пачулася піскліва чыканьне, як бы ~~ядяяж~~ далека-далека крычала сьвіньня. Гэта "рыжы" на прыпечку з пужліва-траскучым шумам глымзаў дадзеную яму ахвяру, глымзаў, лізаў яе гарачым языком, цесна туліўся к ей і выціскаў апошнія сокі.Сьліна-вытворчы пах пранырліва забіраўся ў насы і з асаблівай,толькі яму прыемнай, ~~жэж~~ асьтярогай злакітаў вузенькія насавыя дарожкі.

Настроі перамяніліся. Сэрца стала скакаць іншым тэмпам. Здрыганулася цела. Разьбегліся вочы і адначасова з маленькае шахвы на стол шагнуў "шкляны бог" з міскай шаткованае капусты,краюхай хлеба і патэльняй яечні.

- Таварышы. - з сьмехам на губах празюзюкаў Пеця. Усе на мэйсцы. Браткі, вы знаеце?мне пераваліла толькі за два дзесяткі, а я прайшоў агонь і ваду.Будзе час, што прайду і медныя трубы. Два дні і пасьведчаньне у мяне на руках. Дарога маей працы адчыніцца, думаю, на ўсе чатыры....

- Ну, годзе табе бомкаць? - прабурчэла кампанія.-Бліжэй да справы....

Чаркі готовы. Рукі працягнуліся на стол ва ўсю даўжыню. Пальцы прыліплі к халоднаму шклу. Пачуўся першы тост Засуліча:

"Палепшаў мой лёс
Мне гасьцей ён прынёс.
Госьці не старыя,
Не малыя,
А хлопцы маладыя.
Вас я сустракаю з чаркай
Савецкай сівухі шпаркай,
Каб здаровілася вам
I усім наогул нам.

Чокнуліся. Патыліцы матнуліся ўзад. Кадыкі ўверх - наперад.А праз некоторы час кампаніі і мора ка было па калена.

Ґуртам яны пакідаюць кіслае паветра абмяжаванага пакою і з вясёла--гучным рогатам вывальваюць на неабмежаваныя абшары чыстага паветра.

Усё тым жа знаёмым шляхам пашлі шукаць здарэньняў для той жа мэты і імкненьняў. Але нях доўга ім прышлося дыхаць паветрам цепла-мяккай ночы.Увесь накоплены жыцьцёвы вопыт не саслужыў ім службу.

А 12-ай гадзіне ночы ішлі яны адзін за другім з апушчанымі буйнымі галавамі. Ветрык лашчыў іх задуменныя, ваража-настроеныя твары. Электрычныя лямпачкі злакіталі ім вочы. Цёмныя завулкі глыбокімі ўздыхамі выказвалі пачуцьці сваім неадлучным, звычайным і бясплатным жанглёрам, а чорнае вока крывое сабочкі міліцыянера натапырыла вушы і слала ў іх шырокія сьпіны мат.

Праз гадзіну Пеця Засуліч трохі ачомаўся. Абвёў вачыма навакол сумнага пакою, удыхнуў гнілога паветра і падумаў: "У галаве патоп. Пэдагогіка ўзагоне... Як сумна..... А трэба, трэба.... трэба працы.



Н--ч.



# Из прошлого

Яркие квадраты окон курзала смотрят в ночь. Из отворенной двери доносится шумный говор, молодой смех и врываются в ночь.

А ночь хороша. Молодо, остро хороша.

-Товарищи, идем на озеро - звонко прорезает темень молодой голос.

-Идем, идем ребята. -

-Поздно уж, не стоит. Айда по домам - возражает другой.

Долго спорят, звучно разрезая ночную тишь.

-Нам, кажется, по пути? Вам ведь в казенные? -

-В казенные. Айда. Спать хочется. Ну их с озером... Будем знакомы. Рита Н. из Кургана, ревматик. -

-Люся М. из Екатеринбурга. Тоже ревматик. Адрес: Озеро Горькое, казенные №№, комната 4. -

Обе весело смеются. У входа в номера постояли немного.

- Ночь дивная... Мне кажется, что у нас нет таких ночей. Каждый звук звенит и ломается... Вот... и луна... Как будто ломкая, хрустальная... Ну, значит завтра в ваннах - перебива-

ет себя Люся. - Вам тоже соленые?

- Тоже... - Как эхо раздается - то-же - чеканно доносится вновь.

. .

..

- Люся, ты уж свои послеванные полчаса прокисла или только собираешься лечь? - весело спрашивает Рита.

- А ну их. Не хочу сегодня лежать. Не желаю - и баста. -

- Слушай, Люська, давай идем в Лесные дачи. Версты три, не больше. ~~Захватим~~ Возмем с собой свою воблу обеденную и яйца, по дороге захватим Лельку и махнем.-

- Айда. -

По дороге к дачам Леля Л. предложил поехать на лодке и через пять минут вся тройка уж сидела в плоскодонке.

Озеро слегка волновалось. Соленые брызги разлетались во все стороны при малейшем неудачном взмахе весел.

- Ну, ревматики, смирно. - командует Леля- не качать лодку, а то такую ванну примете, что любо-дорого. -

- Вы не чувствуете, что воздух какой-то острый, влажный и острый - спрашивает Рита.

- Да... и еще какой-то такой, понимаете такой - добавляет Люся.

- Такой - передразнивает Леля, - такой.... Люська, куда ты правишь?-Вдруг вскакивает он и начинает усиленно работать левым веслом. - Там мель, там отчаянная мель. -

Люся второпях ставит руль в обратную сторону и лодка "с треском"врезается в мель. Некоторое время все молча смотрят друг на друга и потом раскатисто хохочут.

- Ничего, плотно сидим - говорит Леля, пробуя веслом оттолкнуться. - Н -да - а... Вот и наслаждайтесь теперь "остротой" и"таким" воздухом. А озеро волнуется. Они и не заметили

как надвинулась с юга туча и поднялся ветер. Помутневшие волны густые, тяжелые и плотные накатывались на борт лодки. А берег берег был далеко.

После долгих напрасных попыток Леля скинул сандалии, завернул до колен штаны и влез в воду.

- Ну, ревматики, а вы веслами... Ну, ну... Ишь шельма. Здорово села... Э - Эх... -

Лодка сдвинулась с места. Леля быстро вскочил за борт и взялся за весла.

- Ну, теперь дружно. Рита, садись за руль. Тебе, Люся, отставка. Раз - два. Раз - два.

Грести было уж тяжело. Волны настойчиво гнали лодку в сторону и было трудно прорезать эту плотную, металлоподобную массу.

В лодке напряженно молчали. Ветер крепчал.

- Держись за борта, ребята, - кричит сквозь ветер Леля.

- Если перевернет - хватайтесь за лодку... Руль правей. -

Но вдруг руль выскользает из ревматических рук и уносится быстро налетевшей волной. Лодка, почувствовав волю, делает резкий поворот в сторону.

- Леля, руль унесло. -

Леля оглядывается, закусывает губу и налегает на весла. Берег уж близко, но волны такие тяжолые... мутные... зеленые..... И лодку так настойчиво относит в сторону. Леля видит, что она уж не подчиняется веслу и быстро относится волной. Вобрав в грудь воздухуон глубоко запускает весла в толщу зеленоватой мути... Раз.... два...... три..... Раз.... раз..... раз...

Берег.

Молча вылезали из лодки, молча привязывали. Капал дождь тяжолыми мутными каплями.

-Ух, ревматики несчастные. Ну и ванну могли иметь. Постоянную.... -

Маленькой групкой стояли у озера под дождем, смотрели друг на друга и хохотали.

шшшшшшшшш

А. РУДНЯНСКІ.

# ПАРНАС У НАШ ЧАС

Былі калісьці на Парнасе,
Шчэ як хадзіў туды Панас,
І стравы розныя і квас,
Але цяпер дык засталася,
Ма быць, адна гарэлка там,
Бо дзе ня стрэнеш вершаплёта -
Усё бурапеніць каля плоту,
Будуе у тры паверхі ямб.

Ад вучня і да карыфея
Свой да капейкі ганарар
Усе ліюць на тратуар
Смуроднай рвотнаю завеяй.

Калі які-небудзь хлапец,
За вершы першую пяцёрку
Здабыўшы усю спусціў на горкай,
То - так і ведай - будзе спэц:
Сумее добра успамінаць
І вёску родную і мацькі;
Бо чуў я неяк у куточку,
Што ёсьць у іх такі манер,
Калі ня уліе за каўнер,
То не напіша і радочка.

А вось, набраўшыся як сьлед
З бутэлькі, альбо з цэлай пары,
І думкі цёмныя, як хмары,
І вузкі робіцца ім сьвет,
Жыцьця шляхі і пуцявіны.
Адзін пад імі жвір - пясок
І кожны куст ні-бы абмок
Ад іхных п"яных сьлёз і сліны.

І вось, такі на-рэшце зьмест:
То плач па нейкай лепшай долі
(вядома - п"яным мала волі),
То з пенай на ратох пратэст,
Што іх пакрыўдзіў нешта горад,
Што цёмна нашае жыцьцё
І ёсьць ў ім адно сьмяцьцё;
Ні кроплі радасьці - усё гора.

Па майму-ж, гора толькі ў тым,
Што не знайсьці на іх Зэвеса,
Які-б рыгаючых бяльмесаў,
Манерам хуткім і крутым,
Дручком, ці паплёскаю ладнай
У адну руку, а можа ў дзьве,
Амярыў так па галаве,
І раз, і два, і тры прыкладна,
З ўзбаламучаных вачэй,
Каб іскры зашугалі стадам.
Тады-б мо" хлопцы іншым ладам
І ліру завялі хутчэй,
Убачыўшы цьвярозым вокам
І радасьць творчасьці і плён
Пасьля кастрычнікавых дзён,
Што параськіданы навокал.
Тады-б і зразумелі можа
Пладлівыя на вершы блудні,
Які ёсьць сэнс у нашых буднях,
Як будаваць жыцьцё прыгожа.

ГР. ЛАДНИН.



# Песня

Разбросалось солнце брызгами,
Засверкало в водах по полю.
Дни весенние,
Дни близкие
По ползучим льдам затопали.
Обогрел на солнце талый снег,
Почернел, присел, расплакался,
Зазвенели льдины жалостью
Над весны цветными знаками.
По лугам цветы подснежники
Голубые, синеватые;
Вспоминаю детство нежное,
Что под грузом лет запрятано.
Прошуршали годы листьями
В звоне льдин слышна мелодия
Про былые дни цветистые,
Про старуху мать
И родину.
Время память исковеркало,
Научила жизнь многому;
Давность детства скажет зеркало

Время память исковеркало,
Научила жизнь многому;
Давность детства скажет зеркало
На беду правдиво-строгое.
Каждый год весной подснежники,
С каждым годом -
Годы грузятся,
Я уплыл от детства нежного
Вперегонки с быстрой музою.
Пусть на улице и холодно,
Но в душе звенит мелодия
Про цветы, весну и молодость
И старуху мать и родину.
Пусть стихи звенят монистами
Уплывают в водах по полю.
Дни весенние, дн
Дни близкие
С каждым часом ближе топают.

xxxxxxxxx
шшшшш
xxx
ш

С.С. (СЕРГЕЙ МАЛИНИН.)

x x
x

Для поэтов - солнечные грезы.
Для поэтов в жизнь цветы вплелись...
И любовь, и пламенные слезы,
И страданий огненная высь.

x x
x

Из-за стен тоски и безучастья
Мрачный мир не видит солнца свет,
Ни любви, ни мысли - нити счастья,
Ни того, о чем поет поэт.



З. ПФЛЯУМБАУМ.

# Вячэрнія рутмы

У задумлівых ценях панурых баляд
Патанулі застыглыя далі;
Багавіньнем атулены срэбны каскад
Задрыжэў журавінамі жалю...
Задрыжэў і схіліўся ў пакорлівым сьне
Пад штылетам таемных сымфоній...
А вячэрняя арфа навеяла мне
Многа казачных фарбаў улоньня.
І заснула я ў лёгкіх павевах вясны
Пад празрыстай чадрою сьвітаньня;
А таемныя цені, панурыя сны
Патанулі ў ласкавасьці раньня...
І маністы каханьня сыплялі мне убёр
Бела-тканны ў карунках няшчоты;
Запаліўся таемнасьцю жгучай прастор
І заціх у атруце пяшчотай...
А балядныя шолахі, песьні,жальбы,
Жмельнай смагай, усьплёскам жаданьняў
Абудзілі далёкую сьнежную быль
Успаміны аб першым каханьні...





# Рыхтуйся да выпуску 3-га Пэдфаку

Чарговы выпуск Пэдфаку ставіць перад намі шэраг неадкладных задач:

НЕАБХОДНА ВЫКАНБЮРО:

1/Дагаварыцца з Дзяржаўнымі выдавецтвамі аб прадстаўленьні доўгатэрміновага крэдыту на бібліятэчкі выпускнікам, накіроўваным на працу;

2/Дабіцца таго, каб выпускнікі стыпэндзіаты атрымалі ПЕРАД ВЫПУСКАМ стыпэндзію да верасьня месяца гэтага году;

3/Паставіць пытаньне аб бясплатных літерох выпускнікам, жадаючым паехаць у Крым Каўказ і г.д.

НЕАБХОДНА НАШАМУ ПРАФКОМУ:

1/Дабіцца таго, каб Пэдфакаўцы пасылаліся ня ніжэй 2 канцэнтру Сямігадкі і каб праца давалася паспэцыяльнасьці;

2/Забраніраваць вядомую колькасьць месц за выпускнікамі, канчаючымі ў восень, бо ні для кога ні сакрэт, што частка IУ курсу, да 15 ліпеня з ўсымі залікамі фізічна ня здолее справіцца;

3/Прыняць удзел ў адборы часткі выпускнікоў на пасады загадчыкаў школ;

4/Дапамагаць самай строгай экономіі унівесытэтскіх сродкаў, вызначаных да выпуску.

НЕАБХОДНА НАРКОМАСЬВЕТЫ:

1/Правесьці шырокую тлумачальную кампанію на раёных і акруговых настаўніцкіх канферэнцыях па пытаньню аб прычынах пераводу старога настаўніцтва з другога канцэнтру ў першы;

2/Прапанаваць мясцовым аддзелам Народнай асьветы з чуласьцю і тактам спаткаць маладога настаўнука і забясьпечыць яго тым ці

іншым спосабам ад магчымых варожых адносін з боку каранога нас-таўніцтва.

Мы заклікаем таварышэй выпускнікоў трымаць пісьмовую сувязь з газэтай і часопісью.

Мы спадзеемся,што для выпускніуоў чатыры гады праведзяныя ў Ун-це не прападуць дарма і што яны будуць стаяць ў першых радах будаўнікоў пралетарскай працоунай школы.

Я.Б.

ВОПРОС ДОЛЖЕН БЫТЬ ПЕРЕСМОТРЕН .-

Деканат Педфака решил дать каждому выпускнику Педфака академическую характеристику со следующими пунктами: I)Здальнасьць агульная; 2)Здольнасьць педагогічная;3)Метадычная падрыхтоўка;4)Разьвіццё агульнае;5)Разьвіццё палітыка-грамадзкае;6)Веды па спецыяльнасьці; 7)Працаздальнасьць;8)Актыўнасьць ў грамадзкай працы;9)Увагі.

Нам думается,что ответить правильно хотя бы на один из этих вопросов (за исключением п.8),не представляется возможным.

В условиях академической разобщенности студенчества с профессурой (и за частую даже студенчества между собой),в условиях незнания профессором студента не только в лицо,но даже по фамилии-давать такую характеристику значит брать на себя НЕ ВЫПОЛНИМУЮ задачу.

В наших условиях НИ БЫСТРОТА СДАЧИ ЗАЧЕТОВ, учет качества которых не ведется; НИ ОСТАВЛЕНИЕ НА ВТОРОЙ ГОД,не зависящее от способностей студента,а от его общественной и служебной нагрузки;НИ СДАЧА за 4 года нескольких зачетов ПО 2 РАЗА;ни аАКТИВНОСТЬ студента на одном из семинаров(у большинства и эта активность отсутствует),-не могут служить показателем общих знаний студента по специальности ,работоспособности и т.д.

Дача характеристики студенту-выпускнику вещь безусловно хорошая,но при условии ее ПРАВИЛЬНОСТИ,а последнее возможно только тогда,когда студенты будут работать отдельными группами по 5-6 человек и профессура будет ХОРОШО ЗНАТЬ СВОЮ ГРУППУ,А ГРУППА ПРОФЕССОРА.

Б. и Г.

# ПЕДФАК ДОЛЖЕН ПРИСЛУШАТЬСЯ К ГОЛОСУ СРЕДНЕЙ ШКОЛЫ.

/ Письмо от окончившего Педфак./

Литература и обществоведение требуют тесного контакта между собой. Поэтому необходимо руководство этими двумя предметами сосредоточить в одном лице, ибо при разных преподавателях эти предметы только "проходяться".

Вся беда средней школы в том, что теперешний студент лингвист не знает обществоведения, а студент историк такой же "специалист" по литературе.

Как на один из самых верных выходов из такого положения является реорганизация социально-исторического и литературного отделений. Существование двух названных отделений не диктуется требованиями средней школы, голосу которой Педфаку прислушаться необходимо. Надо подумать о том, что стоило бы слить эти два отделения в одно так называемое общественно литературное, разгрузив их от лишнего хламу. ПОРА ВЗЯТЬ КУРС НА ПОДГОТОВКУ ГЛУБОКОГО И НАСТОЯЩЕГО СПЕЦИАЛИСТА СВОЕГО ДЕЛА. Иначе нам не поднять среднюю школу до желаемого уровня.

Необходимо также ввести, пока, пятый год обучения на Педфаке, по крайнеймере до тех пор пока средняя школа не даст достойных кандидатов в ВУЗ. Надо программу Педфака строить так, чтоб первый курс уходил на общую подготовку студента, а остальные четыре года обучения должны являтся собственно университетскими.

Л-н

## ЧАМУ СТУДФРАЦКИИ ПРАДМЭТНЫХ КАМІСІЙ СЫПЯЦЬ ?

Чаму,калі на вечары прапета была по адрасу студфракцыі песьня: "Спище орлы боевые"-, ў сале пачуліся воплескі і возгласы адабрэньня?

Працы наших студфракций,агулам гаворачы,ня бачна.
Ёсьць,адна-жа ,паасобныя факты да-рэчы пладатворнай працы студфракцый.Вось прыклады:

Студэнты фізмат прадмэтнай камісіі правялі ў першым паўгодзьдзі з сакратарамі груп нараду,якая дала шмат добрых вынікаў.
Тымі-ж студэнтамі арганізаваны два навуковых гурткі:матэматычны, і фізычны,да працы ў якіх наглядаецца вялікая зацікаўленасьць; ініцыятыву ўзялі як-раз студэнты сябры прадмэтнай камісіі.Падобныя-жа факты знайдуцца і на іншых аддзяленьнях.
Але ўсё-ж студэнцтва аб працы прадмэтных камісій маець слабае ўражаньне.
І тут патрэбна сказаць: БЯДА НЯ Ў ТЫМ,ЩТО ДЛЯ НАШЫХ СТУДФРАКЦЫЙ НЯМА ПОЛЯ ДЗЕЙНАСЬЦІ,А Ў ТЫМ БЯДА,ШТО МЫ НЯ УМЕЕМ ЯШЧЭ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ТАГО,ШТО СУСТРАКАЕЦЦА Ў НАС НА КОЖНЫМ КРОКУ.
Ў бягучай вучобе сустракаецца шэраг арганізацыйных і мэтадычных недахопаў,якія высоўваюцца кожны дзень самімі стыдэнтамі,магчыма калісь і дробных,але патрабуючых разьвязаньня.Тут-ка нашы студфракцыі могуць і павінны шмат чаго зрабіць,
У прыватнасьці - надыходзячая заліковая сэсія ставіць перад студфракцыямі задачу правільнай арганізацыі прыёму залікаў на аддзяленьні.
Пытаньні выданьня канспэктаў і праграм патрабуюць непасрэднага ўдзелу студфракцый,удзелу-усур"ез і надоўга.
Высоўваньне студэнтаў ў навуковыя працаўнікі ня можа і ня будзе праводзіцца без актыўнага удзелу студфракцыі якая ведае кожнага студэнта свайго аддзяленьня,як з боку яго акадэмічнай,так і грамадзкай актыўнасьці.
Ў працы навуковых гурткоў студфракцыі займуць трэба спадзявацца, не апошняе мейсца

Трэба сказаць агулам: СТУДЭНТЫ Ў ТВАРЫ СВАЕЙ СТУДФРАКЦЫІ МАЮЦЬ СВОЙ ВЫТВОРЧЫ ВОРГАН, А ПРАФКОМ-ТОЙ АКАДЭМІЧНЫ АКТЫЎ, НА ЯКІ ЁН АПІРАЕЦЦА Ў СВАЕЙ ПРАЦЫ.

Нам так сама вельмі важны удзел студэнтаў у пасяджэньнях прадмэтных камісій: I/Студэнты знаходзяцца ў курсе таго, што робіцца на аддзяленьні; 2/ Важна студэнцкае прадстаўніцтва, якое-бк голасу прафесуры далучала-бы свой.

Чаму такога твару студфракцый ў нас няма? Чаму нашы студфракцыі мало працуюць?

УЗНАЧНАЙ СТУПЕНІ-ТАМУ, ШТО ПАДБОР СЯБРАЎ СТУДФРАКЦЫЙ НЕЗДАВАЛЬНЯЮЦЫЙ. Прыклад. У студфракцыю фізмат прадмэтнай камісіі абралі чалавек сем, а працуюць і наведваюць пасядженьні 2-3 ч.

Астатнія людзі з разнымі "стажамі" і "добрым мінулым", але нямаючыя ні часу, ні жаданьня акунуцца ў практычную працу.

Падбіраць зацікаўленных працаўнікоў мы яшчэ ня умеем. Ня умеем ўцягнуць радавікоў, а значыцца, і ажыцяўліць працу. Няхай на гэта зьвярне увагу прафком. Няхай ён разам з больш уважлівым падборам працаўнікоў растаўкаець студфракцыі, растлумачыць ім іх задачы/ і тады-гукаў песьні " СПИТЕ ОРЛЫ БОЕВЫЕ" мы больш ня услышым.

РАФАЛЬСОН.-



# ПЕДФАКОВЕЦ НА РАБОТЕ

/ Вуздзенская сямігодка Менскай вакругі /.

Хочацца падзяліцца вынікамі сваей працы. У сямігодцы, дзе я працую усяго толькі 2 Вузаўцы. Старое настаўніцтва спаткала нас ня вельмі добра, бачучы ў нас канкурэнтаў. Спачатку яны разпаўсюджвалі пра студэнтаў ўселікія нябыліцы, ШТО МЫ, ЯК БЫЦЦАМ НЯ УМЕЕМ ВЯСЬЦІ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПРАЦЫ, і наогул стараліся уніжыць нас перад насельніцтвам. І па гэтай прычыне прыхадзілася вельмі многа працаваць, як на школьнай так і на грамадзянскай працы: па краязнаўству, насьценгазэце, прафессійнай працы.

Працы было так многа, што не аставалася амаль ні як часу на дыплёмную працу. І мой савет ўсім студэнтам, КАБ ЯНЫ ПІСАЛІ ДЫПЛЁМНЫЯ ПРАЦЫ ТУТ, БУДУЧЫ ЯШЧЭ СТУДЭНТАМІ, бо на мейсцы няма ніякай магчымасьці пісаць: няма падручнікаў, часу і кіраўніцтва.

Я скончыў фізмат. Хачу сказаць некольні слоў аб практыкуме па самадзельным прыборам. Будучы студэнтам, я адносіўся да яе трохі гіранічна, а цяпер скажу, што "самадзельшчына" дала мне вельмі вялікую карысьць бо прыладаў амаль што няма, а на тыя 30-40 руб., якія адпускаюцца на габінэт нічога не магчыма купіць. ПАТРЭБНА НА ФІЗМАЦЕ НА "САМАДЗЕЛЬШЧЫНУ" ЗЬВЯРНУЦЬ ВЯЛІКУЮ УВАГУ.

Другая рэч. Нам мала каму прыходзіцца працаваць ў школе па дальтон пляну, а практычныя лекцыі мы давалі па яму ў паказальнай школе; ПАТРЭБНА ТАКСАМА ДАВАЦЬ ПРАКТЫЧНЫЯ УРОКІ І ПА ЛЕКЦЫЙНАЙ СЫСТЭМЕ.

М.ЗАУСЬЦІНСКІ.-

/ Б о р и с о в щ и н а /

I/Соответствует ли программа Педфака запросам семилетки?

Нет. Програма исторического и литературного отделений нагромождена разными предметами читающимися без всякой пользы для будущего преподавателя семилетки. Оканчивавший теперешний Педфак пригоден скорее читать лекции по отдельным предметам для подготовленной аудитории, чем для подростков. С элементарным-студент сам не особенно знаком. Студент кончает литературное отделение, прослушав

"даже" курс по истории театра, а писать правильно не умеют, а разобрать произведение применительно к семилетке - нем могут.
На нас возлагают большие надежды и требования , а между тем нам не читают курса по экономической географии . Нас также не ознакомили как следует с географией Белоруссии. Нам в школе и ученику приходится готовиться по одному учебнику, по Сеницуу. Тоже самое - с историей Белоруссии и целым рядом других предметов.

2)ВЗАИМООТНОШЕНИЯ МЕЖДУ СТАРЫМ И НОВЫМ УЧИТЕЛЬСТОВМ.

Старое учительство с удовольствием идет навстречу новому в надежде получить у него хоть долю того, что ему должен был дать Ун-тет.

Старое учительство непрочь уступить первенство новому, но этому мешает само новое учительство .

Новое учительство ,приезджая с Педфака, задирает нос: " Я с университета, а вы..." и потом проваливается. Тогда старое учительство, нащупав ахилесову пяту молодого, начинает его обзывать " педфаковцем" ( самая позорная кличка для учителя в преподавательской среде города Борисова), начинаются "истории". Но стоит новому учителю оказаться на должной высоте как старое учительство принимает его охотно в свою корпорацию и представляет ему возможность работать без всяких осложнений.

Связь между окончившими Педфак и обучающимися на Педфаке более чем желательна. Кроме обмена письмами связь должна оживляться хатябы раз в год конференцией (приблизительно в мае месяце). Такие конференции поставят Педфак в центре всей педагогической работы, которая проводится в пределах Белоруссии.

Л.ЛЕВИН.

# ПЫТАНЬНЕ ТУРЫЗМУ

/ У парадку абгаварваньня /.-

Пытаньне практыкі турызму ў нас у унівэрсытэце зьяўляецца зусім новым. У мінулыя гады мы мелі выключна афіцыйныя экскурсыйныя групы. Цяпер-жа цалкам насьпела гэтае пытаньне і час летніх вакацый неабходна выкарыстаць на масавы турызм, бо экскурсіі (афіцыйныя) абхопяць толькі незнанную колькасьць студэнтаў.

Якім жа чынам лягчэй правясьці падарожжа, каб у мінімум часу пачэрпаць як можна больш ведаў і найлепей скарыстаць экскурсійны час?

Турыская група наперад павінна накідаць плян сваей экскурсіі, абавязкова выявіць што ўяўляе сабой выбраная мясцовасьць і г.д. Галоўнае-гэта азначыць ясна і дакладна мэту сваей паездкі, выходзячы з якой ужо і выбіраць раёны і месца астановак. "Усё пагляджэць" - ёсьць фантазыя, якая ў рэчаіснасьці ня бывае.

З далёкіх экскурсій лепш за ўсё выбраць адным з сваіх месц астаноўкі, тыя, дзе маецца экскурс база: ў Крыму - Севастополь, ў раёне Байдар, Кікенеізы і Алупкі - Ялта, на Каўказе - Уладікаўказ, Батум, Гагры, Тыфліс, на Волзе - Самара і Ніжні-Ноўгерад, на Дняпры Кіяў, бо ад экскурс-базы на месцы можна атрымаць метадычнае кіраўніцтва, разнастойныя парады і г .д.

Дзеля добрага выніку пастаўленай мэты неабходна абмежаваць сабе час экскурсіі. лепш за ўсе эта скарыстаць на экскурсію 2-3 тыдні але ні якім чынам нельга пераваліваць за адзін месяц, бо атрымаецца зморанасьць а не адпачынак і матэрыяльныя магчымасьці стыпэндзіата перашкаджаюць гэтаму.

Зручней ўсяго калі група не перавышае 10 чалавек. Самый лепшай зьяўляецца група ў 5-7 чалавек, якую самім трэба укамплектаваць. Самай грубай памылкай будзе камплектаваньне студэнтаў з розных

матэрыяльныя магчымасьці. Гэта ў першаю чаргу неабходна заўважыць. Усякія расходы ( харчаваньне, начлег, і г.д. ) лепш рабіць калектыўна гэта значыць арганізаваць агульную касу.

Мэта паездкі кожнага студэнта і яго матэрыяльныя магчымасьці, павінны быць галоўным крытэрыям прыкамплектаваньне свае[й] групы, іначэй з групы, якіх добрых сяброў яна не аб"яднала-бы, выйдзе "лебедзь, шчука і рак".

Часткова добра-б было-б скарыстаць пешыя пераходы, тыб больш пры нашай літэрнай сыстэме, але пры дальніх экскурсіях, гэта не заўсёды магчыма.

Па Беларусі пешае перадвіжэньне, а яшчэ лепш веласіпеднае альбо на лодках, зьяўляецца самы [illegible] падходзячым відам турызма. Экскурсіі па Беларусі трэба праводзіць у 2-3 акругі максімум а не ганяцца за абгляданьнем большай яе часткі.

У часе летніх вакацый ехаць у Маскву альбо Ленінград ня мэтазгодна, таму, што найбольш каштоўныя установы будуць зачынены.

Перашкодай ў экскурсіях зьяўляецца наша літэрная сытсэма ( ад Менску да Станцыі Х і назад і ня інакш ), але з гэтым наўрад, што небудзь можна будзе зарбіць, таму што гэта зьвязанна з Наркомасьветы і з Наркомшляху.

ТЭГІ.

Ч-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-,-В
И-.-.-.-.-.-.-.-.-.-.-.-.-.-.-!
Т-:-:-:-:-:-:-:-:-:-:-:-:-Ж
А-"-"-"-"-"-"-"-"-"-"-У
Й-ф-ф-ф-ф-ф-ф-ф-ф-Р
И-.-,-.-,-.-,-.Н
П-:-"-:-"-:-А
И-,"-,"-,Л
Ш-.,-.,?
И ?:?:?:
ö?ö?ö?ö?

-

## ШТО КАЖА НАМ ВОПЫТ ЭКСКУРСІЙ.

-.-,-.-,-.-,-.-,-.-,-.-,-.-,-

Нашы экскурсіі да гэтага часу ў аснаўным насілі культурна асьветны характар.

Накіроўваўшыяся ў Маскву ці Ленінград групы, ў першую чаргу даведвалі музэі, тэатры, заводы і г.д., адводзячы вельмі мала часу знаемству З НАВУЧАЛЬНЫМІ УСТАНОВАМІ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЬЦІ СТУДЭНТАЎ.

Гэта, бязумоўна, дыктавалася месцам экскурсій, складам груп ( групы складаліся, звычайна, са студэнтаў ўсіх факультэтаў), тым тэрмінам, які студэнты былі на экскурсіі і г.д.

Неабходнай задачай, акрамя экскурсіі ў азначаныя гарады, праводзіць экскурсіі У БОЛЫШ АДЛЕГЛЫЯ МЕСЦОВАСЬЦІ- Каўказ, Крым, Урал, а таксама ПА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІІ з краязнаўчымі мэтамі.

Гэтыя экскурсіі павінны ставіць перад сабой сталыя мэты: вывучэньне з эканамічнага і культурна бытавога бакоў тых краін, ў якія праводзяцца экскурсіі, а так сама збор адпаведных матэрыялаў, што дасьць магчымасьць паступова папаўняць нашы лябараторыі і габінэты.

Дзеля гэтага экскурсіі павінны складацца са студэнтаў аднальковых аддзяленій і ставіць сабе адзінакавыя мэты.

Галоўныя затрыманьня пры правядзеньні экскурсій гэта сродкі. Тыя сумы, якія адпушчаюцца па каштарысу праўленьня Ун-ту на экскурсіі далёка не здавальняюць запатрэбаваньням.

Трэба зьвярнуць увагу на ініцыятыву самаго студэнцтва, якое тым ці іншым чынам павінна " выкалачываць" сродкі на экскурсіі .

Толькі тады калі ў дадатак да сродкаў адпушчаемых на экскурсіі па каштарысу праўленьня будуць дадавацца сродкі, напрыклад: сабраныя групай магчыма будзе найбольш прадуктыўна скарыстаць экскурсію і павялічыць лік экскурсантскіх груп.

Н. В - Ч.

# ГРАМАЦКАЯ ПРАЦА НА МЕЙСЦЫ У ЧАС ВАКАЦЫЙ.

:-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-ш-:

Канчаецца акадэмічны год. У пачатку чэрвеня студэнцтва пачне раз"язжацца у свае вёскі і мястэчкі. Побач з адпачынкам, студэнцтва на мейсцы прымае у большасьці актыўны удзел у грамацкай працы.

Якія недахопы сустракаліся у гэтай працы раней?

У мінулых гадох было шмат выпадкаў,калі студэнт сваёй працай падаўляў інцыятыву мейсцовых працаўнікоў. Зусім мала ён увязваў сваю грамацкую працу з будучэй спэцыяльнасьцю,распыляя яе (робіў усе "усе па трохі"). Часта студэнт выяжджаў выключна на адных дакладах, альбо пастаноўках сьпектакляў. Таксама былі выпадкі несур"езных адносін студэнтаў, да сваей працы.

З боку мейсцовых арганізацый часта сустракалася казена-фармальныя адносіны да пытаньня аб грамацкай працы студэнта, альбо выкарыстоўвалі студэнтаў на тэхнічнай рабоце (перапісваньне паперак)

Як павінна складацца студэнцкая праца ў вёсцы і мястэчкі у наступным?

Студэнцкая праца павінна складацца з АГУЛЬНЫХ МОМАНТАЎ,якія павінны праводзіць усі студэнты,як культурные працаўнікі, і ПА УЗІЛУ СВАЕЙ СПЭЦЫЯЛЬНАСЬЦІ.

З агульных момантаў працы, студэнт павінен заўважыць наступные пытаньня:

Правядзеньня гутарак сярод сялянства і мястачковых насельнікоў аб цяперішнім міжнародным і экономічным становішчы Улады і блыжэйшых яе мерапрыемствах (індустрыялізацыя,нацпалітыка,зьніжэньне цэн, барацьба с бюрократызмам і г.д.)

Прымаць удзел у працы камісій сельсаветаў (культ-асьветная,санітарная ці сельска-гаспадарчая)

Дапамагаць у арганізацыі у хатах-чытальнях,або у клюбах куткоў (Ленінскага,каапэрацыйнага, АСА,Мопру)і,у правядзеньні кампаній і рэвалюцыйных сьвят.

Распаўсюджываць сярод насельніцтва падпіску на газэты і журналы або прымаць удзел у карэспандыраваньні жыцьці вёсцы у акруговых ці цэнтральных газэтах,або дапамагчы у працы селькорам.

Прымаць актыўны удзел у практычнай працы існуючых гурткоў (фізкультуры,добра-ахвотцкіх таварыствах і г.д.)

На ЎХІЛУ СВАЁЙ СПЭЦЫЯЛЬНАСЬЦІ нашаму студэнту - пэдфакаўцу трэба прымаць удзел:

У адбываемых у летку настаўніцкіх нарадах данага раену

У правядзеньні гутарак з насельніцтвам аб усеагульным навучаньні, ліквідацыі няпісьменнасьці і г.д.

У азнаемленьні з становішчэм якой небудзь(або некалькіх) із існуючых на мейсцы школ,метадамі заняткоў у ней,складам вучняў і дасягненьнямі у акадэмічнай пасьпяховасьці вучняў.(Гэтым можна азнаеміцца церэз настаўнікоў школы)

Дапамагаць у арганізацыі і працы дзецкіх ясль і пляцовак.

Нельга рэгламентаваць усей тэй работы,якую можна праводзіць на мейсцы. Гэта у большэй частцы залежыць ад умоў і становішча самой весцы ці мястэчка.

Тут толькі даецца НАПРАМАК, у якім павінна пайсці праца, згодна дырэктыў Ц.Б.Пралетстуду(Белбюро).

Студэнт павінен памятаваць,што яму трэба працаваць выключна пад кіраўніцтвам мейсцовых арганізацый,будзіць ініцыятыву самаго насельніцтва і уцягваць у працу новых мейсцовых працаўнікоў,а не самаму выконваць усю працу.

Трэба таксама асьцерагацца ад высоўваньня перад мейсцовымі арганізацыямі "новых"(выдуманых,не спрыяючые мейсцовым умовам)задач, але УДЗЕЛІЦЬ ЎСЮ УВАГУ ДАСКАНАЛЬНАМУ ВЫКАНАНЬНЮ,МАЮЧЫХСЯ ЎЖО ДЫРЭКТЫЎ.

Г - ч.



# ПРЕЖДЕ и ТЕПЕРЬ

( Фантастическая быль ).

Встерился я в саду "Прфинтерн" с незнакомцем. Внешний вид его напоминал студента БГУ"образца" 1922 года.
Голова покрыта чем-то неопределенным, не то малахаем нищего, не то бабьим повойником. "Шинель" невероятного покроя, ветхостью напоминающая сплошную дырку, покрывала его плечи. На нога невообразимое - комбинация из дырявых голенищ, грязных трапок и рваных бечевок. Держал он себя весьма странно, точно с луны свалился. Вид его сколыхнул во мне воспоминание недавнего безотрадного прошлого. Я подошел к нему, познакомился. Он оказался нашим студентом, поступления 1921 года Полногоревым. В результате нашего разговора, у меня в руках отчутились его записки, которые и приводятся ниже без всяких изменений.

. .

. .

.

" Сегодня закончен мой первый университетский учебный год и все кто мог уехать в деревню уже там. А мне некуда уехать. Эх, и доля ты моя... Есть то как хочется... Уж-жа-а-сно хочется... Пойти бы куда на поиски, что-ли? Безполезно..." Одеяние мое так замечательно, что еще за пол версты торговки узнают "студента" и ... разбегаются, точно куры завидя ястреба, кто куда. Но, все таки, как же, как же слямзить что либо с"едобного?

Таким ли представлял я себе университет и студентов...
Эх-ха-ха ...Горько... Но полно отчаиваться молодой человек. Пока вам живот подводит с голодухи, подведите итог прожитого года. Да.

Поступал в университет в розовыми надеждами, но в первый же день они потускнели: что-то уж очень мало спрашивали на экзамене, - закрадывалось сомнение точно ли я в университет поступаю. Стипендию дали только в конце года, да и то " натурой" - сиречь тухлыми селедками и горьким постным маслом. Целый год голодали.
До снегу ночевал где попало: по садам, в под"ездах, под лестницами, но и тут гоняли немилосердно, - не поспишь "спокойно".

Открыли общежитие - четыре голых грязных стены, ни окон, ни две-

